# Уладзімір Бутрамееў

*(нар. у 1953 г.)*

# Страсці па Аўдзею

*Народная драма ў шасці дзеях*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Бацька Аўдзея, 75 гадоў.
Аўдзей — гаспадар хутара, 50 гадоў.
Варвара — яго жонка, 45 гадоў.
Андрэй — іх сын, 25 гадоў.
Дзеці Аўдзея — ад 5 да 25 гадоў.
Эленька.
Жабрак, 70 гадоў.
Сват Аўдзея, 50 гадоў.
Маці Зуйка, 70 гадоў.
Зуёк — бацька Веры, 50 гадоў.
Зуйчыха — яго жонка, 50 гадоў.
Верка — іх дачка, 18 гадоў.
Дзеці Зуйка — дзяўчаты ад 10 да 18 гадоў.
Танька — сяброўка Веры, 18 гадоў.
Хлопцы і дзяўчаты.
Упаўнаважаны з раёна.
Сёмка.
Першы мужык.
Другі мужык.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Хата Аўдзея. Пасярэдзіне стаіць стол. Ля стала з абодвух бакоў лавы. На покуці іконы. Гучыць ранішняя малітва.

Бацька Аўдзея *(стаіць перад іконай)*. «Госпадзі, услыш малітвы рабоў недастойных, яко ёсць человеці в поце ліца дабывающчые хлеб свой... Восстав, благодарю цябе, святы Божа, яко радзі твайго долгацярпенія не прагневался на мяне, лянівага і грешнага, не прызвал пагібель, но человеколюбствовал і допусціл мяне восстаць ато сна... І дал мне мімошедшее время ночі сей без напасці от всякого зла прейці... Госпадзі, просім шчадрот тваіх от века ідушчых, за труды нашы воздай і пошлі дзень безгрешный і ўсердзіе і сміреніе всякому рабу своему в прележных трудах крестьянствующего на земле... І сохрані ісполняющіх закон твой і завет твой... Амінь...»

Пад словы малітвы да стала збіраецца сям'я Аўдзея, разам з гаспадаром.

Аўдзей. Андрэй і Макар, запражыце коней — снапы павозіце, што засталіся. Дзеці, каласкі збіраць на калінавае поле! *(Паварочваецца да старога бацькі, што сядзіць ля яго па левую руку.)* Схадзі на гумно, прыгледзь, каб усё прыгатавана было, каб потым не хапацца. Прывязуць снапы — складзіце. *(Працягвае, пасопшы носам.)* Манька з Нінкай, бульбу дакопваць! Са ўчарашняга раз загнана, а пасля абеду Макар яшчэ разгоне, к вечару каб з поля. Ты, Варвара, з дзеўкамі перабіраць, ды паспяшайцеся, трэці дзень капошыцеся!

Варвара. Сёння кончым. Пагода стаіць.

Аўдзей. Бог не для таго пагоду даў, каб спаць на ёй над бульбай ці языкамі трапаць. Работы

ўперадзе хапае. *(Зноў звяртаецца да старога.)* А на гумно я сам пасля прыйду.

Усе разыходзяцца.

Андрэй!

Андрэй спыняецца і чакае.

Адвязеш снапы, прыйдзеш сюды. Праз тыдзень паедзем на базар. Прададзім пудоў семдзесят бульбы дробнай. Прыкінем грошы. Пара вучыцца грошы лічыць.

Абодва доўга маўчаць.

Ну што стаіш? Ідзі рабі.

Андрэй усё роўна стаіць на месцы.

*(Паглядзеўшы на яго спадылба, пасапеўшы носам, гаворыць.)* Ну дык вось... Калі сёння ўправімся... Заўтра з'ездзім да Кацькі, паглядзім, як там яна, як за шляхтай год пражыла; мо пабагацелі, што носа не кажуць... А потым ужо і пагаворым, перад суботай, з табой...

Андрэй выходзіць.

*(Дастае паперку, аловак, лічыць.)* Калі семдзесят пудоў па восем капеек... Восенню... Хлеб па восені па трыццаць... *(Піша нешта ў паперцы, чапляе на нос акуляры.)* З жыдам разлічыцца... А калі пакінуць у доўг, не разлічвацца, а аддаць вясною... Каня на восень... А можа, вясною... Падаткі наперад... Аўса зімою...

Уваходзіць вандроўнік, з торбай, кійком, у лапцях.

Жабрак. Беражы вас Бог! *(Кланяецца.)* Пусціце пагрэцца з дарогі.

Аўдзей *(не падымаючы вачэй)*. Многа вас тута з дарогі... І кожны да чужога цяпла ліпне. Бог не дзеля таго ету дарогу прыдумаў, каб па ёй без работы шляцца.

Жабрак *(усміхаецца)*. Не гняві Бога, Аўдзеюшка. Грэх божаму чалавеку адмовіць.

Аўдзей *(падымае вочы)*. Мікола? Адкуль ты?

Жабрак. Ці не пазнаеш?

Аўдзей. Мікола! *(Усміхаецца.)*

Жабрак. Ён самы. Суседа не пазнаў, усё лічыш, усё няма калі, памажы табе Бог у справах.

Аўдзей. За Богам не пражывеш. Калі сам не зробіш, то і лічыць няма чаго.

Жабрак. А як няма чаго лічыць, дык і пражыць лягчэй.

Аўдзей *(зноў усміхаецца)*. Вот ты лягчэй і жыві. А я гаспадар. Ты з торбай пайшоў з зямлі, дзяцей што ў прымы, што ў беспасажніцы растаркаў. А я за той час хутар нажыў.

Жабрак. Кожнаму, Аўдзей, свой шлях. Мая гаспадарка не горш тваёй была, ты ж ведаеш. А як памерла жонка, пачаў я голас чуць: «Ідзі з торбаю, толькі той, хто з торбаю, той і выратуецца»,— я і пайшоў... Дзесяць гадоў, ад вёсачкі да вёсачкі, ад цэрквачкі да цэрквачкі, учора іду сабе, думаю: «Вось і мая старонка блізка, дай завітаю». А дарога ўсё лесам, лесам, і пераначаваць нейдзе. Іду, а ваўкі, лісіцы па лесе бегаюць. Успомніў я, што ета Здвіжанне сёння, страшна мне стала. Вецер падняўся, лес стогне, сосны скрыпяць, змеі, здаецца, клубком усе дрэвы аплялі, я ўжо на самую сярэдзіну дарогі, як па нітачцы іду, не аглядваюся, а вецер халодны, да костачак прабірае, пад раніцу ледзьве шавялюся, замёрз, пусціў бы ты пагрэцца...

Аўдзей. Пагрэйся... Печ з раніцы пратоплена... Дзесяць гадоў... Я за дзесяць гадоў гаспадарку падняў. Трох коней маю, з даўгамі разлічыўся.

Жабрак *(залазіць на печ)*. Ой, дзякуй, благаславі цябе Божа.

**Аўдзей.** Дзесяць гадоў! Ты за еты час вады столькі не папіў, колькі я поту праліў!

**Жабрак.** Ох цёпленька, ох костачкі прамёрзлі, ох мае костачкі!

**Аўдзей.** І вот за дзесяць гадоў — катомку ды лапці нажыў. Які толк з цябе?

**Жабрак.** Вось дзякуй, Аўдзей, вось дзякуй!

**Аўдзей.** Не дзеля таго Бог чалавека на зямлю пусціў, каб жабраваць.

**Жабрак.** Каб яшчэ накрыцца чым, век Бога б за цябе маліў.

**Аўдзей.** Ці ты глухі, ці ты прыкідваешся. Ён Бога б за мяне маліў. *(Бярэ з лавы кажушок, кідае на печ.)* За сябе памаліся. Мне з тваёй малітвы не жыць.

**Жабрак** *(накрываецца).* Ось, саўсім харашо. Госпадзі, што людзям трэба: цяпло ды акрайчык хлеба. І каб не гналі. Дзякуй табе, Госпадзі.

**Аўдзей.** А-а... *(Махае рукой і зноў бярэцца за падлікі.)* Пудоў... Па паўтары... Рубель... Не менш... Зіму... Хлеб па вясне...

**Жабрак.** Палічы, Аўдзей, палічы, а я пасплю, маё ўжо ўсё наперад падлічана...

**Аўдзей** *(працягвае).* Па тры капейкі... За воўну... пятнаццаць рублёў... На коней...

Збоку з'яўляюцца двое. Адзін нечым нагадвае Аўдзея — невысокі, у добрых ботах. Другі ў дзіравых ботах, але відаць, што хітры і нахабны.

**Першы мужык** *(незадаволена).* Зацеяў ты ўсё гэта... Дарэмна... Хто гэта паверыць, выганіць з хаты...

**Другі мужык** *(па-змоўніцку).* Ён нічога не ведае.

**Першы мужык.** Як гэта не ведае? Усе ведаюць, а ён не ведае.

Д р у г і   м у ж ы к. Адкуль яму пачуць — са сваёй бярлогі не вылазіць, на базар прыедзе — з чалавекам не загаворыць. Гэтакі мядзведзь. А грошы ў яго павінны быць. Кулак добры.

П е р ш ы   м у ж ы к. Дык яно... Нядобра гэтак...

Д р у г і   м у ж ы к. Ты ў царкву прыйшоў? Я табе сказаў — зраблю. Хто б другі не прадаў, а я прадам. А астатняе — не твая справа. Мне кума — яна жонцы старшыні сельсавета траюрадная — гаварыла. *(Азіраецца і шэпча першаму на вуха, той палохаецца.)*

П е р ш ы   м у ж ы к. Ды ну? Не, я не пайду. Ідзі адзін, я тут пачакаю.

Д р у г і   м у ж ы к *(бярэ першага пад руку)*. Пойдзем, пойдзем, яго і ўдвух угаварыць нялёгка, мала што яму ў галаву прыйдзе, а так гаспадар на месцы.

Абодва падыходзяць да стала. П е р ш ы   м у ж ы к трымаецца крыху ззаду.

Аўдзей падымае галаву.

Дзень добры, Аўдзей Усцінавіч! *(Здымае шапку, кланяецца, усміхаецца.)*

Першы мужык стаіць збоку.

А ў д з е й. Чаго трэба?

Д р у г і   м у ж ы к. Справа да цябе, Аўдзей Усцінавіч.

А ў д з е й *(усміхаецца)*. У цябе справа?

Д р у г і   м у ж ы к. Ага, Аўдзей Усцінавіч, я адразу казаў — гэта толькі да Аўдзея Усцінавіча, толькі ён і зможа. Сваяк мой, далёкі, па жонцы *(паказвае абедзвюма рукамі на першага мужыка)*, малатарню паравую прадае. Ды хто купіць, усё галота, як вось я, напрыклад — хе-хе-хе-хе,— я і сказаў, калі толькі Аўдзей Усцінавіч, бо, ведама,—

гаспадар! І грошы, мабыць, мае. Ён, кажу, рэч у гаспадарцы патрэбную не міне. Гаспадар! Выйшаў бы, паглядзеў, Аўдзей Усцінавіч...

Аўдзей. Вы што, сюды яе прывезлі?

Другі мужык. Ага! Я кажу: толькі Аўдзей Усцінавіч, бо гаспадар *(да першага мужыка)*, талкавейшага гаспадара ў нас тут ва ўсёй акрузе няма. Кожны ведае, які гаспадар Аўдзей Усцінавіч!

Аўдзей. Вось таму, што я гаспадар, малатарню ў цябе купляць не буду.

Другі мужык *(пакрыўджана)*. А-а... а ты хаця б паглядзеў, Аўдзей Усцінавіч...

Аўдзей *(абыякава махае рукой, усміхаецца)*. Паглядзець? А што ты каму прадаў, каб не ашукаць?

Другі мужык *(разводзіць рукамі)*. Грэшан, Аўдзей Усцінавіч, усяк бывала... Але ж гэта — чыста. Яй-бо!

Аўдзей. Дарэмна ты пёрся да мяне са сваёй малатарняй. Сапраўдны гаспадар з ашуканцам звязвацца не будзе. Ды я і сам ведаю, добрай малатарні на нашай акрузе ні ў кога няма.

Другі мужык. Здалёк чалавек прыехаў, з-пад Мсціслаўля, павер, Аўдзей Усцінавіч, а малатарня...

Аўдзей. Зразумела, што за малатарня, калі павёз прадаваць далей ад сваіх месцаў, у нашу глуш. Думаеш, тут дурні? Не ведаюць? *(Падымаецца з-за стала і падыходзіць да першага мужыка.)*

Другі хуценька становіцца паміж імі.

Другі мужык. Выпадак гэты — нельга дома прадаваць. Выязджае ён, уся вёска супраць яго па злабе — бо ці ж любіць галота хазяіна. Як жа ім прадаваць добрую рэч, малатарня ў яго — золата. Чыстае золата, яй-бо! Вось ён і кажа — не прадам

нікому са сваіх, лепш у рэчку ўкіну, а не прадам! Прывёз да мяне — за палавіну прадай,— я і падумаў, хто, як не Аўдзей Усцінавіч, усе ж наўкола — галота. Калі ўжо такі выпадак — за палавіну!

Аўдзей *(другому мужыку)*. Што ты пляцеш, што ты брэшаш, што ты як вужака на патэльні круцішся! Я бацьку твайго помню — прайдоха ён, і ты прайдоха.

Другі мужык. Хе-хе-хе, Аўдзей Усцінавіч, яно-то гэтак, праўда твая, а толькі малатарня добрая! І чалавека я прывёў вартага, гаспадар. Гэта не я. Што я? Аб мяне і ногі выцерці можна... А — хе-хе-хе — малатарня добрая!

Аўдзей. Ты хочаш Аўдзея абкруціць?! Я да імперыялістычнай малатарню з Сячком удвух трымалі, я яе на жалезкі разабраць-сабраць магу. Мне ламачча і за палову грошай не трэба! Не на таго напаў!

Другі мужык. А ты правер, правер, Аўдзей Усцінавіч. Малатарня — што гадзіннік у нашага пісара. Абы ты гаспадар, і абы ў цябе грошы былі. Правер, як што ў малацілцы не так, галаву мне на калодку і сякерай!

Аўдзей. За тваю галаву я б палову капейкі не даў. А паглядзець дзеля цікавасці можна. За пагляд грошы не плацяць.

Другі мужык. Палову капейкі — хе-хе-хе — Аўдзей Усцінавіч. Ты і прыдумаеш. Але паглядзець трэба — добрая малатарня.

Усе выходзяць. Другі мужык увесь час забягае наперад Аўдзею і працягвае расказваць.

У талковых руках была. Спраўная. Вось далібог! Каля гумна паставілі. Як убачыш, пяцёрку шчэ прыбавіш. Яй-бо! Залатая, залатая малатарня! Яй-бо! Ай да Аўдзей Усцінавіч!

Мужыкі выходзяць, з другога боку сцэны з'яўляецца Эленька.

Эленька. Дзень добры ў хату. Эй, гаспадар! Аўдзей! Ёсць хто-небудзь?

На печы жабрак вылазіць з-пад кажушка.

Жабрак. Здароў, здароў!

Эленька. А-а, гэта ты ўжо тут! Ну-ка, раскажы, як жыды прадалі Ісуса Хрыста! Ты ўсім расказваеш, а не разумееш, што цяпер не той час! Цяпер новае ўрэмя! Ісус Хрыстос цяпер не ў пачоце! А калі б жыды не прадалі яго, табе б не было што расказваць мужыкам і бабам і ты б не меў кавалка хлеба і чарку. Ты ж любіш выпіць, я добра ведаю.

Жабрак. Як нальюць, то вып'ю. *(Падымаецца, садзіцца на печы.)* А ты ведаеш, Эленька, Іуда таксама любіў выпіць.

Эленька. Хіба так напісана ў Евангеллі?

Жабрак. А вось паслухай. Пілат даў жыдам чатыры залатыя цвікі, каб яны прыбілі рукі і ногі Ісуса да крыжа. А Іуда атрымаў за гэта трыццаць сярэбраных манет. Ну, распялі яны Хрыста, грошы прапілі, а з раніцы хочуць пахмяліцца, бо галава баліць. А пахмяліцца няма за што. Тады Іуда і дадумаўся, цвікі з ног у Хрыста выцягнуў, нагу на нагу, ды адным і прыбіў, а другі залаты цвік залажыў, ды і пахмяліўся.

Эленька. Э-э, брат, ты вялікі выдумшчык! Я б даў табе выпіць. Ты ведаеш, сын Мойшы, Іцка, запісвае гэткія байкі. І прымаўкі. Ён вучыцца ва універсітэце — зайдзі да яго, раскажы, ён дасць табе выпіць!

Уваходзяць Аўдзей, абодва мужыкі, Андрэй. Аўдзей выцірае анучай рукі. Другі мужык забягае наперад Аўдзею, заглядвае яму ў твар.

Д р у г і   м у ж ы к. Адразу бачна, што сапраўдны гаспадар: паглядзеў і ўсё зразумеў. Я гаварыў, калі хто — дык толькі Аўдзей Усцінавіч.

А ў д з е й *(да абодвух мужыкоў)*. Калі за палову, дык можна размаўляць. Паловы яна вартая.

П е р ш ы   м у ж ы к *(не стрымаўшыся)*. Яна-то каштуе не палову, бач ты, палову за гэткую малатарню!

А ў д з е й. Размова ішла пра палову. Другой размовы не было. Глядзіце самі.

Д р у г і   м у ж ы к *(звяртаецца да першага)*. Капітонавіч? *(Гаворыць, а сам махае рукой, маўляў, згаджайся, мы ж дамаўляліся з табой.)*

Першы мужык у роспачы махае рукой і адыходзіць убок, другі мужык звяртаецца з усмешкай да Аўдзея.

Як дамаўляліся, Аўдзей Усцінавіч, так і зробім.

Усе, акрамя першага мужыка, падыходзяць да стала, за якім сядзіць Эленька. Жабрак зноў лажыцца на печы і накрываецца кажухом.

Э л е н ь к а. Аўдзей, здароў быў! Як жывеш, даўно цябе не бачыў. Што ты маеш з гэтым прайдохам *(ківае ў бок другога мужыка)*?

Д р у г і   м у ж ы к. Маўчы, у цябе свае справы, у нас свае, мы да цябе не мяшаемся, ты да нас не лезь.

Аўдзей дастае з-за іконы грошы, адлічвае і аддае другому мужыку. Мужыкі адыходзяць убок. Першы мужык працягвае руку, другі аддае яму грошы. Першы пачынае пералічваць.

Я ж гаварыў, ён нічога не ведае. Са мной не прападзеш! Сёмка — прайдоха, а справу ведае! І ўсё чыста: твая малатарня добрая? Добрая!

П е р ш ы   м у ж ы к. Не мяшай! *(Зноў пералічвае грошы, кладзе іх у кішэню.)*

Д р у г і  м у ж ы к. Капітонавіч, а мне?

Першы мужык незадаволена паглядае на другога, дастае грошы і дае спачатку рубель, потым, падумаўшы, яшчэ адзін.

Ты ж абяцаў пяць рублёў?

П е р ш ы  м у ж ы к. Хопіць з цябе і двух. *(Выходзіць.)*

Другі спачатку абурана глядзіць услед, потым спяшаецца наўдагонку.

Д р у г і  м у ж ы к. Капітонавіч, можа, яшчэ што трэба, дык толькі скажы, я ўсё, што трэба...

На сцэне застаюцца Эленька і Аўдзей, тут жа за сталом моўчкі сядзіць Андрэй, жабрак ляжыць на печы.

Э л е н ь к а. Ты купіў малатарню?

А ў д з е й. Добрая малатарня.

Э л е н ь к а. Не звязвайся з Сёмкам! Ты ж ведаеш, што гэта за чалавек!

А ў д з е й. З малатарняй мяне не ашукаеш, я яе як свае пяць пальцаў знаю.

Э л е н ь к а. Ты ўсё купляеш! Каня купіў, малатарню купіў! Ці ж ты не бачыш, які час! Усе прадаюць, а ты купляеш!

А ў д з е й. Галыцьба глядзіць прадаць ды праматаць, прапіць, прагуляць. А гаспадар — купіць.

Э л е н ь к а. Эх, Аўдзей, Аўдзей! Ты разумны чалавек, талковы гаспадар, трэба разумець!

А ў д з е й. Ты чаго прыехаў?

Э л е н ь к а. Ты панімаеш, мне патрэбны грошы. Я табе казаў — можаш не спяшацца, аддай потым, але напярод ніхто нічога не ведае. Прыехаў мой кампаньён, ён патрабуе грошы, мы разам прадавалі скот. Я павінен разлічыцца з ім.

А ў д з е й *(незадаволена)*. Я думаў аддаць табе вясною, калі за хлеб можна больш узяць.

Эленька. Але ж цяпер такі час, такі выпадак. У цябе што, няма грошай? Што ты за гаспадар?

Аўдзей. У мяне ёсць грошы, не хвалюйся. Як табе гэтак патрэбна, я аддам.

Эленька. Мы з табой усё падлічым. *(Пачынае лічыць.)* Ты браў на каня. Ты замяніў карову, мы дамовіліся, што гэта пяць рублёў. Я браў у цябе два бычкі, а ты ўлетку браў трыццаць рублёў. А я браў сорак пудоў жыта. Будуць патрэбны грошы, я аддам.

Аўдзей. Я не чакаў, што ты спытаеш гэтыя грошы. Мы ж заўсёды разлічваліся вясною.

Эленька. Так, але прыехаў мой кампаньён. Мне патрэбны грошы. У цябе няма? Што ты тады за гаспадар?

Аўдзей. Я аддам табе грошы.

Эленька. А калі табе пасля спатрэбіцца, я дам табе зноў. Не хвалюйся. Я ж ніколі не браў з цябе працэнт.

Аўдзей. Як не браў? Браў!

Эленька. Калі гэта было. Ты тады яшчэ не ведаў мяне, я не ведаў цябе, а цяпер мы ж сябры. Дурні б'юцца, а разумныя людзі заўсёды дойдуць да згоды.

Аўдзей падыходзіць да іконы, дастае грошы, каля стала пералічвае і аддае Эленьку.

*(Забірае грошы і падымаецца з-за стала.)* Да пабачэння, Аўдзей! Паслухай старога яўрэя, не купляй малатарню, не купляй коней. Ты павінен усё сам разумець, ты разумны гаспадар. Бывай здароў. *(Выходзіць.)*

Аўдзей *(Андрэю)*. Вось прыспічыла яму. З году ў год гэтыя грошы пераходзяць: а тут, як больш за

ўсё трэба,— аддай! Усе грошы з рук... Але малацілка добрая. Што там Эленька плёў — не наша справа, малацілка добрая, гэта такі выпадак нам трапіўся. А свая малацілка — о, ета, брат, вялікае дзела! От каб свой млын — тады ніхто табе не ўказ, нікога прасіць не трэба, нікому кланяцца не трэба. Млынар з памолу жыве; зямлю не арэ, неяк спытаў у Івана-млынара, маўляў, чаго зямлю кінуў — не разарвацца, кажа. А я б разарваўся! Я б зямлю не пакінуў. Тады толькі і будзеш нешта мець, як перарвешся, перасілішся, як возьмешся са ўсяе сілы. Я еты хутар з аднаго каня пачаў ды з даўгоў — а выкарабкаўся. Людзі гулялі, пілі, прадавалі, маталі, з мяне смяяліся, кулак, гаварылі, пад сябе грабеш, пуп нарвеш, лопнеш! А ў мяне свой розум! Прагуляць лёгка, прахам пусціць — лёгка! Нажыць цяжка! Хто гняздо ўе, у таго і ўецца, у таго і ёсць, а ў каго ёсць, той і жыве, так на етым свеце спакон веку ўстроена!

Ж а б р а к *(з печы)*. Э-э, Аўдзей, ніхто не ведае, як еты свет устроены. Памятаеш крывога Якіма, што дзецям за золата зямлю купіў? А зямля стала нічэйная праз год, га? Напярод дня не ведаеш, усе мы ў гасцях, а гняздо наша на пагорку. Туды з сабою нічога не возьмеш.

А ў д з е й. Каб усе пра той пагорак думалі — пляцень бы спінамі падпіралі, пальцам бы не варухнулі, з кійка ды торбы жылі.

Ж а б р а к. А як збоку глянеш, Аўдзей, дык што чалавеку трэба — акрайчык хлеба, ды каб пагрэцца, ды каб не гналі. Госпадзі, як падумаеш, ну што чалавеку трэба!

А ў д з е й. Кожная варона за сваё каркае. Чалавеку многа трэба! *(Разводзіць рукі, быццам хоча абхапіць стол.)* А мне б яшчэ млын! А малатарня тра-

пілася, ах, добрая малатарня, вось выпадак. Мне б з маім падвор'ем ды малатарняю, ды маімі сынамі — мне б млын! Вот ета быў бы я гаспадар! А, Мікола? Ха-ха-ха...

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Хата Зуйка. Стол, ссунуты ў кут, лавы стаяць літарай «П». Печ і ікона завешаны. Вечарынка ў Зуйковай хаце. Хлопцы, дзяўчаты, гарманіст. Толькі што скончылася полька, збіраюцца скакаць кадрылі. Верка і яе сяброўка Танька сядзяць убаку, ля акна.

Танька *(супакойвае)*. Мо прыйдзе яшчэ.

Верка *(пакрыўджана)*. Ага, прыйдзе. Ужо расходзіцца час.

Да іх падыходзіць хлопец, запрашае Верку.

Хлопец. Пойдзем на кадрылі.

Верка. Не хачу.

Хлопец. Ах, ах, Андрэя чакаеш?

Верка. Каго хачу, таго і чакаю.

Хлопец. Бач, якая каралеўна. Твой Андрэй, можа, дзе бліжэй знайшоў, чым за дзесяць вёрст цягацца.

Танька. А ты чаго чапляешся? Як Андрэй прыйдзе, дык баішся, а цяпер смелы?

Хлопец. Ха, напалохаліся мы твайго Андрэя. Прыходзілі адзін раз з суседняй вёскі, усыпалі ім так, што доўга памятаць будуць. Можам і Андрэю, калі захочам, не паглядзім, што з хутароў.

Танька. Ах, які смелы. Ды толькі на язык.

Хлопец. Падумаеш! *(Падыходзіць да дзяўчат, запрашае адну з іх.)*

Пачынаюць танцаваць. Хлопец і дзяўчына, якую ён запрасіў, смяюцца і пяюць прыпеўкі. Пачынае дзяўчына.

Ой, прыходзьце, хлопцы, ў сваты,
Я жыву багата.
Конь храмы у майго бацькі,
Завалілась хата.

Хлопец працягвае:

Я мілога ўсё чакала
Ды не дачакацца,
Як ён возьме мяне замуж —
Буду папраўляцца.

Танька (*хлопцу*). Дураны!

Усе танцуюць, уваходзіць бацька Веркі, вечарынка ў яго хаце.

Зуёк. Усё, усё, хопіць. Пара дахаты.

Дзяўчаты (*у адзін голас*). Дзядзечка Пятрок, рана яшчэ, ну зусім жа рана.

Зуёк. Усё. Ні-ні. Вы б ноч скакалі, як козы.

Дзяўчаты. От яшчэ крышачку...

Зуёк. Пагулялі, хопіць. Спаць даўно пара, заўтра працаваць. Добрыя людзі ўжо малаціць пачалі.

Хлопцы. Багатым, дзядзька Пятрок, будзеш, як малаціць да Пакравоў збіраешся.

Зуёк. От каб ты гэтак у полі, як языком.

Дзяўчаты. Дзядзечка Пятрок...

Зуёк. Ні-ні!

Хлопцы. Дзядзьку Петраку кавалеры ды жаніхі больш не патрэбны, ён на хутаранскіх спадзяецца.

Усе смяюцца.

Зуёк. А хутаранскія не такія лайдакі, як ты. Вось сустрэну бацьку, ён табе пасмяецца лейцамі.

Дзяўчаты. Дзядзечка Пятрок...

**З у ё к.** Усё, сказаў усё, дык усё! А то другі раз не пушчу. Бач, разыграліся.

Усе разыходзяцца і пяюць прыпеўкі.

Танцаваць вам сёння хопіць,
Паясніца забаліць,
Прыхадзіце лепей заўтра,
Падсабіце малаціць.

Адзін з хлопцаў працягвае:

Як у дзядзькі Петрака
Поўна дзевак хата,
Вось аддам усіх іх замуж,
Зажыву багата.

*(Нязлосна).* От чэмера табе ў бок, зубаскал. От каб цябе...

Застаюцца сем дачок Зуйка і Танька.

*(Дочкам).* Кладзіцеся спаць. Верка, прыбярыце тут. От каб да работы гэтак, як да гэтых скокаў.

З у ё к выходзіць разам з д о ч к а м і за шырму. Верка і Танька мятуць падлогу.

**Т а н ь к а.** А мо здарылася што дома, ці мала што можа... Ды і сапраўды — кожны раз за дзесяць вёрст...

**В е р к а.** Дык і той раз.

**Т а н ь к а.** Дык перадаваў жа, што не прыйдзе.

**В е р к а.** А еты раз наадварот казаў — чакай, абавязкова прыйду, раскажу, як...

**Т а н ь к а** *(хуценька).* Што раскажа?

**В е р к а** *(зразумеўшы, што прагаварылася).* Што... Ну... Ну, як там убраліся...

**Т а н ь к а.** Як убраліся? Ды ўжо ж убраліся. Можа, і малаціць пачалі. От пойдзеш за Андрэя — наробішся. У Аўдзея ад цямна да цямна.

Верка. Не за Аўдзея ж я пайду.

Танька. Так ён і аддзеліць вас.

Верка. Ды за Андрэем нічога не страшна.

Танька. А Мішка так і падкатваецца да цябе.

Верка. Дурань. Я Андрэя ні на каго не памяняю.

Сядаюць на лаву ля акна.

Не ведаю, што са мною творыцца. Хаджу, як у сне. Учора бацька трасе за плячо — крычыць у вуха, а я нічога не чую... А трэцяга дня як убачыла яго — дык так бы, здаецца, і паляцела, толькі рукамі махні — і паляціш!

Танька. Ой, Верка, як я табе зайздрошчу! А тут няма анікогачкі! У той вечар Колька Сыпункоў пайшоў праводзіць — і адразу цалавацца лезе... Во дурань, а? Яму-то што... А Мішка пра цябе ўсё гаворыць, маўляў, хутаранскі, дык за ім следам, маўляў, багатыя...

Верка. Дурань ён. Вунь Ягора сын — Сцёпка. Хутаранскі і багацейшы за Аўдзея, а каму ён трэба, недапечаны. Гады два таму праводзіў мяне, сядзіць, як размазня якая, бармоча нешта пра авёс, пра нейкую кульгавую сабаку.

Танька. Ага. Ён прыдуркаваты, яй-богу. А Кацька сёння ўсё ўсміхалася — і прыпеўку гэту з Мішкам — гэта яны ўсё пра цябе. От яна каля Андрэя раней усё хадзіла — як ні павернецца, і ўсё каля яго, я прыкмеціла. Бацька яе гаварыў — мая, маўляў, не заседзіцца, за маёй ёсць што даць.

Верка. Чула. А і не кінуліся браць. Яна ж касая. Ты вось прыгледзься. На левае вока.

Танька. Ай, праўда! Яй-богу! А я думаю, што ета яна ўсё ўбок глядзіць! Во табе!

Верка. Я? Я не магу без яго — калі што здарыцца, яй-богу, не ведаю, што будзе. Я ні за каго

другога не пайшла б. Помніш Нінку, што павесілася з-за Федзькі Кастрова? Ой, як я цяпер разумею яе. Ой, як разумею!

Танька (*спалохана*). Што ты! Госпадзі! Кінь пра дурное. Напужала.

Верка (*сур'ёзна*). Не, калі што — мне не жыць...

Танька. Перастань, Госпадзі, ну цябе. Пайду. І то бацька спытае, дзе так позна была.

У акно залазіць Андрэй.

Верка. Ой! (*Кідаецца да лавы, накрывае калені кажушком.*)

Андрэй сядае побач, абдымае Верку і пачынае цалаваць.

(*Слаба адбіваецца, потым усё ж вызваляецца з яго рук. Пакрыўджана.*) Я сяджу, хвалююся, а ён... Што толькі не думала. (*Усхліпвае.*) Усю вечарынку сэрца ледзь б'ецца, перажываю, а ён...

Андрэй. Не мог... Ну яй-богу, не мог. Малатарню купілі, пакуль з бацькам паспрабавалі, раз, другі... Ну, Вер. (*Гладзіць яе па плячы.*)

Вера адсоўваецца.

Ну яй-богу... Паслязаўтра ў сваты прыедзем.

Верка (*спалохана*). Ай!

Андрэй. Во табе і ай. Бацька сам сказаў.

Верка (*прыхілілася да яго пляча*). Андрэечка, праўда?

Андрэй. Няўжо ж.

Верка. Раскажы.

Андрэй (*задаволены, усміхаецца*). Кажу аднойчы бацьку — маўляў, так і так, жаніцца хачу.

Верка. Калі?

Андрэй. Ну, яшчэ як убіраліся. Я ж ведаю, ён, каб што — месяц думае. Вось і кажу заранеі.

**В е р к а.** Ага. А ён?

**А н д р э й.** Убярыся спачатку, кажа, а потым пра жаніцьбу думай. І адразу спытаў — каго, маўляў, нагледзеў. Я і кажу — Зуйкову.

**В е р к а** *(папpавіла валасы, прыхарашылася.)* А ён?

**А н д р э й.** А ён кажа, у Зуйка ўсіх дзевак усё роўна не перабярэш.

**В е р к а** *(пакрыўджана адхілілася).* Андрэечка...

**А н д р э й.** Дык я ж ведаю, што калі спытаў каго — значыць, дазволіць. Каб не, то і не пытаў бы каго.

**В е р к а** *(з надзеяй кіўнула галавой).* Ага, ага.

**А н д р э й.** А ўчора іду, чую, за хатай бацька з маці размаўляюць. Я прыслухаўся. Трэба жаніць, кажа бацька, цяпер не той час, аддзяляць, хату з вясны пабудуем, каня дам. На свае ногі, цяпер і зямлі больш дадуць, бо асобная гаспадарка. І маці згодна.

**В е р к а** *(весела).* Ой, Андрэечка...

**А н д р э й.** Хто гняздо ўе, у таго і ўецца.

Верка абдымае і цалуе Андрэя.

Сваёй гаспадаркай зажывём — сам сабе галава! Адно не лянуйся, усё нажывеш! Бацька казаў, за Зуйковай дзеўкай пасагу асаблівага не возьмеш, ды былі б рукі.

**В е р к а** *(з гонарам).* Пасаг бацька абяцаў, і Вальцы, старэйшай, давалі, і грошы, і ўсё сабралі як трэба. І мне маці ўсё згатавала, і грошы ў бацькі ёсць, я ведаю, маці казала, для мяне падрыхтаваў.

**А н д р э й.** Каб грошы, прыкупілі б другога каня — вось табе і гаспадар!

**В е р к а** *(з гонарам, упэўнена).* За мной будуць.

**А н д р э й.** Мы б зажылі! Эх, зажылі б! І малатарня цяпер свая. Бацька сказаў: заўтра да абеду

паедзем да Кацькі — паглядзець, як жывуць. За шляхту выдавалі, бацька каня даваў, і грошай колькі, і дапамагалі, а шляхта, сама ведаеш,— гонару шмат, а як да гаспадаркі — то і не вельмі. А даваць за дзеўкай, калі ў талковыя рукі, дык і не шкода. А як не, то бацька не паглядзіць, скажа. А пасля абеду — сам казаў — у сваты. *(Дастае з-за пазухі хустку.)* А гэта — табе.

Вера разгортвае хустку.

Верка. Яна ж дарагая... У Шмуйлы гэткія аж па пяць рублёў. *(Накідвае хустку на плечы.)*

Андрэй. Эх, Верка!.. Мы зажывём! Як ніхто!

Верка прыхінулася да Андрэя, Андрэй абдымае яе, пачынае цалаваць. Верка спачатку адказвае, потым хоча вызваліцца.

Верка. Андрэечка, не трэба... Прачнецца хто [illegible] нашых... Ой, не трэба... Другі раз, не трэба сёння...

З-за шырмы выходзіць старая, з рук яе выпадае жалезная конаўка. Андрэй і Верка палохаюцца.

*(Азіраецца і супакойваецца.)* Гэта бабка, яна глухая, за печкай сядзіць, вады, мабыць, захацела.

Маці Зуйка *(стаіць перад іконай)*. «Госпадзі, Божа праведный, всесільный і всевідзяшчый, прасці мне грахі, іжэ сатварыл па неразуменію в сей ушэдшый дзень і словам, і дзелам, і памышленіем, і ачысці душу маю ат всякай скверны і дай мне, Госпадзі, в ночы сей сон перайці в міре, яко семя Тваё і во мне есць, чтобы восстаць завтра от ложа, как і во все дні жывата майго і не предай мяне крамоле змяінай і желанію сатаны і врагов маіх плотскіх і не плотскіх, даруй мірэн сон і безмяцежые, яко і всем Табою сотваренным... Госпадзі...»

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Хата Аўдзея. Сям'я Аўдзея збіраецца за стол. Як і раней, вакол стала нічога няма, ззаду печка, збоку ікона. Аўдзей ужо сядзіць за сталом, дзеці носяць хлеб. Жабрак стаіць каля стала.

Аўдзей *(жабраку)*. Сядай, сядай ужо...

Жабрак садзіцца за стол.

Варвара. Што ні гавары, а не блізка, і дарога. З дарогі заўсёды есці хочацца.

Аўдзей *(насмешліва)*. Ага, дарога. Не ў дарозе справа. Паны многа не ядуць і другім не даюць.

Варвара. Ну, галодныя не сядзяць.

Аўдзей. Яшчэ б ім галодным сядзець. Каня даў, грошай даў — а другога каня не нажыў — затое ў новых ботах ходзіць. Шляхта! Ты з ёй гаварыла?

Варвара. Гаварыла. Быццам давольная. Плакацца няма чаго.

Аўдзей. Яшчэ б ёй плакацца! Сілай не выдаваў. Казаў наперад — не прымушаю, паглядзі сама, цяпер век не такі, самі жэняцца, табе жыць, а лепей з мужыком сваім хутарам, чым з панам: ета не так, тое не гэтак. Ды і гаспадар ён — больш языком.

Варвара. От, бабе адно шчасце, каб мірам прыжыцца, а там ужо неяк... Дзіцё толькі слабенькае. Не крычыць — пішчыць. Знаць, не выжыве.

Аўдзей. Не бяда. Народзіць, ета дзела няхітрае. Дзеўка спраўная, народзіць.

На стол ужо сабралі. Усе пазіраюць на Аўдзея.

*(Бярэ лыжку.)* Ну, у гасцях добра, а лішні раз паабедаць не пашкодзіць.

Бацька Аўдзея. Бога забываеш! Не да дабра за хлеб без малітвы брацца. *(Доўга моліцца.)* «Отчэ наш, іжэ есі на небесі, да свяціцца імя Тваё, да прыідзіт царствіе Твае, да будзет воля Твая, яко

на небесі і на зямлі. Хлеб наш насушчный дай нам днесь, і ославі нам далгі нашы, яко і мы астаўляем далжнікам нашым, і не введзі нас во іскушеніе, но ізбаві нас от лукавага. Амінь». Не да дабра без малітвы за хлеб брацца.

Усе чакаюць, і толькі пасля малітвы бяруцца за лыжкі і пачынаюць есці.

**А ў д з е й.** Чула, маці, старэйшы наш жаніцца захацеў. *(Паварочваецца да Андрэя.)* Не церпіцца, мабыць, га?

**А н д р э й.** Я вам усё як ёсць сказаў. Як вы скажаце, гэтак і будзе.

**А ў д з е й.** А, маці?

**В а р в а р а.** Хай сабе, яно-то, можа, і ранавата, дык цяпер жа ўсё не як даўней.

**А ў д з е й.** Даўней усё талкавей было. Бацькі выбіралі. Ну дык раскажы, каго нагледзеў.

**А н д р э й.** Я ўжо казаў вам.

**А ў д з е й.** А ты не палохайся, яшчэ скажы. Тута за етым сталом усе свае сядзяць.

**А н д р э й** *(апусціўшы галаву.)* Верку Зуйкову.

**А ў д з е й.** Бач ты, няблізка выгледзеў. А добра выглядаў?

**А н д р э й.** Добра.

**А ў д з е й.** Дзеўку выгледзець таксама трэба ўмець. Галава тут таксама не лішняя ў гэтай справе. Я як задумаў жаніцца, пайду, думаю, прыгледжуся, каторая як на сенакосе ды з сярпом каб не апошняя. А то ж ведаў — хутар купляць будзем. На хутары ета не на вечарынцы скакаць.

**В а р в а р а.** Зуйковы працавітыя. Хоць і не досыта, але і не галадаюць, людзі ведаюць.

**А ў д з е й.** Зуйка дзеўкі разарылі. Мужык ён сабе так, быццам нічога, а восем дзевак — не паскачаш. А вось таксама глядзець трэба. А як прывядзе табе трынаццаць дзевак у хату, га?

Андрэй. Не прывядзе. Старэйшая іх, што за Пачапёнкам,— двух сыноў вунь нарадзіла.

Аўдзей (*задаволена*). Бачыш — прыглядаецца. (*Усміхаецца.*) А пойдзе за цябе?

Андрэй хоча адказаць, але заўважае, што бацька жартуе, апускае галаву. Усе смяюцца, асабліва гучна Аўдзей — ха-ха-ха. Потым усе змаўкаюць і чуцен смех пяцігадовай дзяўчынкі, што запознілася засмяяцца. Ад гэтага ўсе смяюцца яшчэ раз.

Ха-ха-ха — яна-то пойдзе. (*Ён задаволена азірае ўсё наўкола сябе, стол, сям'ю.*) Ну дык што, маці, можа, паедзем, паглядзім дзеўку?

Варвара. Як скажаш.

Аўдзей. Ну дык вось, запражэш пасля абеду Сівога. (*Да жонкі.*) Нясіце там бульбу ды сала, а то шляхецкі абед, што тая вячэра ў посную пятніцу.

Жонка і дочкі прыносяць бульбу і сала, патэльні. Жабрак падымаецца з-за стала.

Жабрак. Дзякуй, дзякуй, благаславі вас Гасподзь.

Аўдзей. Заставайся, хопіць і на цябе.

Жабрак. Дзякуй. (*Залазіць на печ.*) Мне многа есці нельга, не прывыкшы. Як чаго варанага пасёрбаю з хлебцам, дык на дзень і сыты.

Аўдзей. От, бачу, ты і да яды, як да працы.

Жабрак. А яно ж і сапраўды, не парабіўшы і не паясі, так яно і ёсць.

Усе працягваюць есці. Уваходзіць мужык, за плячыма ў яго паўмеха зерня. Ставіць мяшок на падлогу.

Мужык. Дзень добры вам у хату. Аўдзей!

Аўдзей. Чаго табе?

Мужык. Доўг за мною. Перасып, я са сваім мехам прыходзіў.

Аўдзей выходзіць з-за стала, падыходзіць да мужыка, глядзіць у мех.

**Аўдзей.** Ты палову меха браў?!

**Мужык.** Палову і аддаю.

**Аўдзей.** Мы дамаўляліся, што за палову меха ты вернеш мех, так ці не так? Дамаўляліся?

**Мужык.** З майго, Аўдзей, табе цяпер прыбытку не будзе. Мінуў той час. Палову браў, палову аддаю. *(Хоча выйсці.)*

Аўдзей затрымлівае яго, хапае за руку.

**Аўдзей.** Чакай! Палова меха ўвесну, як ты браў, каштуе столькі, колькі цяпер, па восені, тры мяхі. Ты што, за лета сумленне прапіў?

**Мужык.** Ета ўжо не твая справа, хто што прапіў.

**Аўдзей.** А дамаўляўся хто?

**Мужык.** Даваў палову, хочаш цэлы? З чужога хочаш нажыцца? Цяпер не той час, хопіць!

**Аўдзей.** Што? Я з чужога? *(Хапае мужыка за грудкі.)*

Паміж імі стаіць мех, ён падае, зерне высыпаецца. Сям'я Аўдзея працягвае абедаць, быццам нічога не бачыць і не чуе. Жабрак падымаецца на печы.

**Мужык.** Ну-ну-ну! Чаго хапаеш! Нахапаліся, хопіць! З мяне не возьмеш, не...

**Аўдзей.** Ды я цябе... *(Прыцягвае мужыка да сябе, але той не даецца.)*

Сям'я моўчкі есць за сталом.

**Мужык.** Прывыклі хапаць, абдзіралы, нацярпеліся, як вы душыце, сокі з мужыка цягнеце, цяпер не тое, цяпер за беднату, цяпер вам костка папярок горла, кулаччо, куркулі, нарабавалі, награбілі, цяпер мужыку воля, цяпер мужык паверху, каб вы паўдушыліся, зажраліся, гадаўё, на етых хутарах!

**Аўдзей.** Сокі з цябе — хто — я? Ета ты — мужык?! Які [redacted] цябе мужык, калі ты па вясне з торбай ходзіш, насенне просіш, жабрак ты, а не мужык! Мужык тады мужык, калі ён гаспадар, калі не прапіў, не прагуляў, не адляжаў бакі. Мужык тады, калі ў яго ёсць! Я зажраўся на хутары — а і ты зажрыся! Зямлю ж па едаках, усім пароўну раздзялілі — чаго ж ты не зажраўся? Едакоў многа, работнікаў мала, не на едаках свет трымаецца, на работніках! Ета я зажраўся, калі рук ад працы не чую? Ты б цяпер зажраўся б у мяне ў склепе, ды ў кладоўцы — там цяпер усё ёсць, а дзе ты быў, як [redacted] пуп ірваў, горб гарбаціў, кішкі вузлом завязваў, каб усё ета мець! Цяпер ты рады на нажытае, ты б аб'еўся, апрогся чужым, а я са свайго мазаля зажраўся, сваім мазалём нагроб. Так, як ты грабеш, і ўтрох не награбеш, а я адзін цягнуў, як вол, як конь, як дзікі мядзведзь: і ета ты мне гаворыш — з чужога?! Ах ты гад, сам век [redacted] чужога жывеш, век у доўг, падохнеш, адны даўгі застануцца, у аднаго па вясне бярэш, у другога — па восені. За палову мех па вясне — ета па-божаску, у мястэчку з цябе б тры шкуры спусцілі, дык ты прыбег да мяне за пяць вёрст: Аўдзей Усцінавіч, дапамажы, а цяпер аддаваць не хочаш, як дамаўляліся, сволач, яшчэ й зяпу раскрыў, задушу!

Аўдзей душыць мужыка, той спрабуе вырвацца, але Аўдзей мацнейшы. Сям'я моўчкі есць за сталом.

**Мужык.** Пусці, пусці, а-а-а, пусці...

Жабрак на печы працягвае ўперад рукі.

**Жабрак.** Аўдзей, Бог з табой, супакойся. За паўмеха жыта чалавека задушыш, чалавечую душу за паўмеха зярнятак, ці ж вартыя етыя зярняткі

таго... *(Гаворыць усё гэта, стоячы на печы, праз стол.)*

Сям'я есць, не звяртаючы ўвагі ні на што. Аўдзей крыху адпускае мужыка, паварочваецца ў бок жабрака і адказвае яму праз галовы тых, хто сядзіць за сталом.

Аўдзей. Зярняткі? Для мяне етыя зярняткі — хлеб! Табе хлеб — працягнуў руку — вот табе і хлеб, а мне ён нялёгка даецца, тройчы потам зямлю палью, пасаджу, сабяру, абмалачу, а потым яшчэ млынару заплачу, тады толькі руку працягваю за сваім кавалкам на стале. Мне етыя зярняткі не проста так, мне хлеб цяжкай працай даецца!

Жабрак. Не хлебам адзіным жывы чалавек, апомніся, Аўдзей. Без дабра не пражывеш, як і без хлеба, не злуй, што нам у жыцці трэба, колькі нам трэба!

Мужык *(Аўдзею)*. Я што браў, то і аддаў, хто-небудзь іншы цяпер, калі ўсіх вас, кулакоў, ксплутатараў душыць пачалі, і етага не аддаў бы, а я, каб граха на душу не браць, прынёс, бо сумленне...

Аўдзей. Сумленне? У цябе сумленне? Каб твой бацька пачуў! Ах ты, гад, заб'ю, сволач!

Аўдзей штурхае мужыка, той падае, у Аўдзея ў руках з'яўляецца пуга, ён б'е мужыка, збоку выскоквае сабака, Аўдзей крычыць: «Ату, ату!», гоніцца за мужыком, мужык уцякае. Сям'я моўчкі есць за сталом, як бы нічога не заўважаючы. Жабрак стаіць на печы, падняўшы ўверх абедзве рукі.

Жабрак. Госпадзі! Колькі злобы ў людзей, колькі злобы, нянавісці, хужэй звяроў! Госпадзі, а што чалавеку трэба? Акрайчык хлеба, цяпло, ды каб не гналі. Госпадзі!

Бацька Аўдзея *(стаіць перад іконай)*. «Госпадзі, не пакінь мяне, атхадзяшчаго в мір ночы сей,

не дай дземану насільствам абладаці мною, наставі мяне на пуці спасенія быць дастойну саздацеля... Прыйдзі незрыма і вселіся в нас і ачысці душу маю акаянную і астанаві ад прэступленія, но охрані ад варварства і разбоя...»

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Тая ж сялянская хата. Стол, печ, бачны іконы. Шырма, за каторай спяць. Вера Зуйкова нешта шые разам з сяброўкай Таняй. Збоку — яе малодшая пяцігадовая сястра перабірае фасолю.

Танька. Выйшла ўчора ад цябе, іду, а яны з гармонікам, паселі на бярвеннях каля Фядосіка. Дык Кацька ўжо каля Пецькі, і гэтак увіваецца, гэтак увіваецца, а ён — хоць бы што. Дык так адна да хаты і пайшла. Бясстыжая...

Верка. А Пецьку можа абкруціць. Ён ціхі, во паглядзіш. Папомні мае словы.

Танька. А во паглядзім — не!

Верка. Як летась — Валька Сіўцова — круцілася каля Федзькі, ды замуж і выскачыла.

Танька. Параўнала — Валька Сіўцова. Там ёсць на што паглядзець, а то — пігаліца. Прыдумала, што яна прыгажуня, а ў самой нос доўгі, як лядзяш. І бясстыжая...

Верка. Ведаеш, я раней таксама гэтак думала — бясстыжая, бясстыжая... А цяпер неяк падумала — а калі б што паміж намі з Андрэем... *(Азіраецца на сястру.)*

Тая ўважліва прыслухоўваецца, але, заўважыўшы Верчын погляд, паспела адвярнуцца і зрабіць абыякавы выгляд.

*(Цішэй.)* Калі б што — нічога не пабаялася б зрабіць. Што б хто ні казаў. Цяпер я зразумела, чаго гэта яны ўсе бясстыжыя...

Танька. Паслухай, Вер, вы як удваіх застаецеся, што Андрэй робіць?

Верка. Што?! *(Паціскае плячыма.)*

Танька. Не. Твой Андрэй, мабыць, не гэтакі. А за мною ўчора зноў Колька ўвязаўся... І зноў за сваё...

Верка. Ціха ты.

Верка і Танька азіраюцца, сястра не паспявае адвесці ўбок зацікаўленага позірку.

*(Да сястры.)* Ідзі на вуліцу пагуляй!

Сястра. А мне маці казала фасолю перабраць...

Верка. Ідзі, ідзі, вушы вострыш. Паспееш, перабярэш яшчэ фасолю, паспееш! *(Выводзіць сястру з хаты.)* Што я табе пакажу зараз...

Танька. Ой, што? Пакажы хутчэй.

Вера дастае хустку і паказвае.

Ой! У Шмуйлы гэткія па пяць рублёў бачыла.

Верка. А ведаеш, хто мне яе падарыў?

Танька. Хто?

Верка. Андрэй падарыў.

Танька. Андрэй?

Верка. Ага.

Танька. Дай паглядзець.

Верка аддае хустку.

*(Мерае. Потым задумваецца.)* Вер, а Вер? А ты чула?

Верка. Што?

Танька. Пра Зінку Васількову?

Верка. Не-а. Скажы.

Танька. Толькі... каб нікому!

Верка. Няўжо ж!

Танька. Зінка цяжарная!

В е р к а. Ай, Госпадзі!

Т а н ь к а. Ад Мішкі Барысіка. Усё — мой Мішка, мой Мішка,— вот табе і Мішка! Хадзіла да бабы Сысіхі, а Сысіха і кажа раптам: не, больш грашыць не буду, грэх на душу браць, мне паміраць хутка... А сама потым цётцы Марылі расказала, а тая ўжо — маці. Бацька яшчэ не ведае. Што будзе? Глядзі — каб нікому.

Сяброўкі памаўчалі, а потым Танька нерашуча прадоўжыла.

А спачатку хустку гэткую паказвала, як у цябе.

В е р к а. Якую хустку?

Т а н ь к а. Гэткую саму, ад Шмуйлы, па пяць рублёў. *(Зноў памаўчаўшы.)* Як у цябе...

В е р к а. Ты што прыдумала?! Дурніца ты!

Т а н ь к а. Я нічога...

В е р к а. Хочаш, скажу?

Т а н ь к а. Што? Гавары.

В е р к а. Сёння ў сваты прыедуць.

Т а н ь к а. Яй-богу? Андрэй?!

В е р к а *(з гонарам)*. Андрэй!

Т а н ь к а *(узрадавана)*. Ой, Верка, праўда? *(Абдымае Верку.)* А ты адкуль ведаеш?

В е р к а. Ведаю.

Т а н ь к а. А ты маці казала?

В е р к а. Няўжо ж.

Т а н ь к а. А бацьку?

В е р к а. Не-а. Маці, мабыць, сама яму сказала. Андрэй казаў — аддзеліць бацька. Сваім двором жыць будзем. Я б ні за кога не пайшла, толькі за яго. Ні за кога. Я яго ў сне кожную ноч бачу, толькі вочы закрыю — і бачу...

Т а н ь к а. Вер...

В е р к а. Што?

Т а н ь к а. А табе не страшна? Замуж?

Верка смяецца.

В е р к а. Андрэй казаў, што ён мяне і пальцам не кране, яй-богу.

Уваходзіць м а ц і, з ёй пяцігадовая д а ч к а.

З у й ч ы х а. Во сарокі, языкамі лапочуць, а ў хаце не прыбрана. Як праўда людзі прыедуць?

В е р к а. Я зараз!

Т а н ь к а. Я пайду, раскажаш пасля.

Зуйчыха, Вера і пяцігадовая дачка прыбіраюць у хаце, накрываюць абрусам стол, выносяць фасолю, В е р к а выходзіць, застаюцца Зуйчыха і пяцігадовая дачка.

Д а ч к а. Мам, а мам...

З у й ч ы х а. Што?

Д а ч к а. А за каго б мне замуж пайсці?

З у й ч ы х а. Што? Шмат жаніхоў?

Д а ч к а *(задумаўшыся)*. Віцька — дык ён недарэка. Пецька зусім малы яшчэ. Сашка Сёмкін бегае да Валькі гуляць, мне гэтакі непатрэбны... А Саўка...

З у й ч ы х а *(сур'ёзна)*. А што Саўка? За Саўкам без хлеба б не сядзела, у іх усе спраўныя.

Д а ч к а. Не, мам... За Саўку я не пайду...

З у й ч ы х а. Чаму?

Д а ч к а. У яго соплі з носа цякуць... Прама на губу.

З у й ч ы х а. А ты прыгледзь. За мужыком хто прыгледзіць. Калі Саўка ў бацьку ўдасца, за ім кожны дзень булкі есці будзеш.

Д а ч к а. Як на Вялікдзень?

З у й ч ы х а. Як на Вялікдзень.

Уваходзіць В е р к а. Садзіцца ля стала.

В е р к а. Мам, а калі цябе сваталі, боязна было?

З у й ч ы х а. Боязна. Толькі ў той час усё інакш было. Я твайго бацьку да сватоў і не ведала. Нас у сям'і дзве дзеўкі было на выданне, дык як

прыехалі, то і не ведалі, да каторай. Во як было ў тыя часы.

Верка. Мам...

Зуйчыха. От ладна, усё яшчэ даведаешся. Бацькі няма — людзі прыйдуць, сорам. Панеслі чэрці на ета засяданне. Пачапёнак еты хаця і зяць, а розуму няма, і бацьку нашага цягне туды ж. Сядзелі б лепш ціхенька па хатах... Ды хто бабу паслухае... Ідзі дзеўкам дай паснедаць, бо прыйдуць людзі, сядуць, ды гарэлку пачнуць піць, ды размаўляць, дык тыя галоднымі і застануцца.

Верка выходзіць і тут жа вяртаецца.

Верка. Мамачка! Едуць!

Зуйчыха. А Госпадзі! Бацькі ж няма! А Госпадзі!

Уваходзяць сваты — Аўдзей, Варвара, Андрэй, дзве старэйшыя дачкі Аўдзея.

Аўдзей. Вечар добры! Прыйшлі не званыя, як прагоніце, дык міма пойдзем, а як пусціце ў хату, дык і вам гарэлкі нальем.

Зуйчыха. Заходзьце, заходзьце, сядайце. Мы гасцям рады. Сядайце. Толькі гаспадара нашага няма — во-во вернецца, выклікалі ў сельсавет, пайшоў пасля абеду ў ета мястэчка, павінен ужо вярнуцца...

Аўдзей. Па якіх справах выклікалі?

Усе садзяцца.

Зуйчыха. Зяць у нас... Старэйшую нашу дачку браў. Вы ж, мабыць, ведаеце, Пачапёнак...

Аўдзей. Чаму ж не ведаем. Ведаем. Мы хаця і жывём далекавата, але ж самі адсюль усіх добра ведаем. І Пачапёнка ведаем. Хто яго не ведае. Зяць не на ўдачу.

**З у й ч ы х а.** Яй-бо. Не на ўдачу. Ды што рабіць. Восем дзевак. Як пасватаў, так і аддалі. Нам выбіраць няма з чаго.

**А ў д з е й.** Непуцёвы.

**З у й ч ы х а.** Усё засяданні. А ў гаспадарцы не прыбаўляецца, ды і тое, што ёсць, недагледжана.

**А ў д з е й.** Дык ад засяданняў і не прыбавіцца. Засяданнямі хлеба не вырасціш і скаціну не накорміш.

**З у й ч ы х а.** Вось і бацьку нашага зацягнуў, у нейкую там камісію. Вы ўжо выбачайце — во-во павінен вярнуцца...

**А ў д з е й.** Мы можам і пачакаць. Нам спяшацца няма куды, мы на засяданні не ходзім, гаспадарка ў нас у парадку, можна і ў госці праехаць. Паглядзець, можа, дзе дзеўкі добрыя ёсць. Праўда, хлопец наш хутчэй за нас справіўся, выгледзеў сабе прыгажуню, вот бы і нам паглядзець.

**З у й ч ы х а.** Верка! Выйдзі да людзей!

Верка адразу ж выходзіць з-за шырмы, быццам толькі і чакала, калі яе паклічуць.

**А ў д з е й** *(весела)*. Бач ты, і ўгаворваць не трэба!

Зуйчыха дакорліва ківае дачцэ галавай.

**З у й ч ы х а** *(як бы апраўдваючы дачку)*. Дзеўцы гэткая доля — не церпіцца.

**А ў д з е й.** Калі і да работы гэткая спрытная, дык нам падышла б, я гэтак думаю.

**З у й ч ы х а** *(паспешліва)*. У нас усе працавітыя. Ета любы скажа, у каго хочаце спытайце.

**А ў д з е й.** Яно і нам гультая не трэба, ды, папраўдзе, і гультаю ў нас соладка не будзе. Калі дамовімся, дык сына я вырашыў па вясне аддзяліць. Ён у мяне талковы, за ім не прападзе, але ж не так ета і лёгка — на свой хлеб сесці. Не кожны гэтую

лямку пацягне. Справа — не жарт. Але нам бы з гаспадаром пагутарыць.

Зуйчыха. От гаспадара нашага няма. Ды калі ўжо гаварыць, то што там. Мы людзі простыя. Нам дзеўка ■ рук — палёгка, што ні кажы, а гэта так. Але іншы раз і аддаваць шкада. Вырасцілі, дзеўкі добрыя, і дапамога ад іх — але ж каля сябе ўсё жыццё трымаць не будзеш. Цяжка дзевак выдаваць, ды што ж рабіць, але скажу адно: нашыя горш як у людзей не будуць. І Пятрок не пастаіць — і грошы дадзім, і карову прывядзе. А што да работы — дык з нашымі мала хто параўнацца можа, хай людзі скажуць. Мы хоць і не багата жывём, але не лежабокі. Каб мірам ды ладам, дык ■ нашага боку граху ні ў чым не будзе.

Аўдзей. От ета ты, гаспадынька, добра сказала. Не люблю я сватання, п'янай размовы. Справа сур'ёзная, сур'ёзам і гаварыць трэба. Такая размова нам падыходзіць. Мужыку каня купіць — і то розум трэба, а ета жонка, тут удвая глядзець. Мы жывём аднаасобна, ад людзей далёка. Каму сумна, а каму — і не. Лепш пасумаваць, чым пагаладаць. Працуй — і сумна не будзе. Па-мойму гэтак: хто робіць, той і мае, а хто мае — той і жыве. Вось гэткая размова мне, гаспадыня, па душы. Толькі б нам яшчэ з гаспадаром пагутарыць. Гаспадар — гэта гаспадар...

Зуйчыха. От бяда! І ніколі ж раней не хадзіў на етыя засяданні! І казала ж яму. А Божа, ці не ён?

Уваходзіць Зуёк.

Зуёк *(хаваючы вочы)*. Вечар добры.

Аўдзей *(падымаецца насустрач)*. Добры вечар, Пятрок, прыехалі за таварам, а гаспадара і няма.

Абодва стаяць наперадзе, а за імі ў рад сядзяць усе, хто прыехалі ў сваты. Зуйчыха і Верка стаяць каля іх справа і злева.

Зуёк *(незадаволена)*. Я тавараў не трымаю, гэта ў мястэчках у крамах тавары.

Аўдзей. Ну, брат, у цябе тавару на палову вёскі хопіць. Мы тут, хаця і не па парадку, з гаспадыняй размаўлялі ўжо. Дзеўку сватаць прыехалі.

Зуёк *(робіць здзіўлены выгляд)*. Дачку?

Аўдзей. А што ты дзівішся? Прымай сватоў, сватоў прымаць лёгка, у іх гарэлка з сабою.

Зуёк. Дачка мая яшчэ маладая.

Аўдзей. А нам маладая і патрэбна. Навошта сватам старая? Мы за маладой і прыехалі.

Зуёк. Ну вось што. Таго, чаго вам трэба, у мяне для вас няма. Так што, выбачайце, гасцявацца нам няма чаго.

Аўдзей. Пачакай, як гэта?

Зуёк. А так. І гарэлкі мы піць не будзем, і да другога разу адкладваць не будзем. Выбачайце!

Зуйчыха. Пятрок, ты што? З глузду з'ехаў? Ты ж сам казаў!

Зуёк *(жонцы)*. Цыц! *(Да Аўдзея.)* Што сказана, то сказана — дачку замуж я не выдаю. І ўся справа.

Аўдзей здзіўлена глядзіць на Зуйка. Андрэй падымаецца і робіць крок наперад, азіраецца на Верку, тая хоча нешта сказаць.

Аўдзей *(пакрыўджана-абурана і сярдзіта)*. Ну, тады... Тады ета ўжо вы нас выбачайце! Андрэй!

Верка. Татка, аддай за Андрэя! *(Кідаецца да бацькі і падае перад ім на калені.)*

Зуёк. Бясстыжая!

Зуйчыха. Пятрок! А Госпадзі!

Зуёк *(тупае нагой)*. Цыц! Марш атсюдава!

Аўдзей і ўся яго сям'я выходзяць. Верка хоча кінуцца следам. Зуёк хапае дачку за руку, штурхае яе. Верка падае, маці падымае яе.

Зуйчыха. Пятрок!

Верка. Што вы нарабілі — а-а-а!! Пусціце, пусціце мяне, што вы нарабілі!

Маці ўтрымлівае Верку, Верка вырываецца, захлёбваецца слязьмі.

Зуйчыха. Што ты...

Верка. Пусціце мяне. Сама да яго пайду! Сама, што вы робіце, пусціце!

Зуёк. Цыц, бабы дурныя! Іш, распусціла! Я вам!

Зуйчыха. Ты ж сам казаў!

Зуёк. Тое было ды прайшло! Ад Аўдзея цяпер чым далей, тым лепей!

Выходзяць некалькі дачок, забіраюць у маці Верку, вядуць за шырму. Верка плача, знясілена.

Верка *(паўтарае)*. Пусціце мяне, пусціце, што вы нарабілі!

Зуйчыха *(мужу)*. Што людзі скажуць — Аўдзею адмовіў, з глузду з'ехаў!

Зуёк. Не да людзей, сваё даражэй, ты ведаеш, што [illegible] Аўдзеем будзе?

З новай сілай чуваць плач і крык Веркі, і ўсё раптам змаўкае.

Зуйчыха. Што?

Зуёк. Каб пра гэта больш ні слова не чуў, зразумела? І рота не раскрывай.

Зноў чуваць плач і крык Веркі, і зноў раптам усё змаўкае.

Толькі звечарэе, возьмеш карову — Лысуху, павядзеш лесам, выйдзеш на шлях — да раніцы каб у Мсціслаўлі была, прадасі за любыя грошы.

Зуйчыха. Што ты кажаш!

**З у ё к.** Маўчы, баба! Рабі, што мужык кажа!

Зноў чуваць плач і крык Веркі, і зноў ён адразу змаўкае.

І нікому, каб ні слова! І каб ніхто не заўважыў. А я павяду другога каня і каровы... Аддай дачку за Аўдзея, невядома, што з ёй станецца.

**З у й ч ы х а** *(прыкрывае палахліва рот рукой).* Што ты кажаш! Што ж гэта робіцца?!

Зноў чуваць плач і крык Веркі, і зноў адразу ўсё змаўкае.

**З у ё к.** Маўчы, маўчы, дурная, маўчы. *(Пагражае жонцы кулаком.)*

Зноў чуваць плач Веркі, яе крык: «А Госпадзі, што вы нарабілі, пусціце мяне, утаплюся, утаплюся я, Госпадзі, чым я вінавата, што яны са мною робяць, Госпадзі, людзі, утаплюся, утаплюся, Госпадзі».

**М а ц і  З у й к а** *(стаіць перад іконай).* «Госпадзі, дай мне слёзы і памяць, і ўміленіе, паслушаніе, долгацярпеніе і кротасць... Ізбаві мяне ад маладушыя і акамяненнага нечувствія, ад дзьявальскага пасяшанія, ад лютага васпамінанія, ад завісці чалавечаскай і ад насілія па злобе, і ад власцей жастокасердных і нерадзівых... Госпадзі, весь перад Табою, яко внезапно судзія прыідзет і каждага дзеянія абнажацца... Пуці Твае ніспаведзімы, чалавек, яко трава дні яго, і не пазнает места свайго і не падумает о часе сваём... Госпадзі, гнев Твой ачышчаюшчый да не да канца прагневаецца, не дапусці беззаконія, не па беззаконію нашаму судзі нас...»

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Хата Аўдзея. Уся сям'я за сталом, перапужаныя, незадаволеныя, пакрыўджаныя. Жабрак сядзіць на печы. Уваходзіць Аўдзей.

Аўдзей *(са злосцю, з пагрозай)*. Пасваталіся! Вось табе і пасваталіся, з'ездзілі!

Жабрак прыслухоўваецца, уся сям'я і Андрэй глядзяць на бацьку ■ увагай і надзеяй.

*(Працягвае з той жа злосцю, як бы сам сабе.)* Гэта ён Аўдзею адмовіў! Ён мне па пуп *(паказвае рукой ад падлогі)* — і ён мне адмовіў. Ах ты... *(Звяртаецца да сваіх.)* Абыдземся! Мы не прападзём! Мы пражывём! Нічога! Наша ўсё цэла засталося, бедаваць няма чаго, у нас не прапала! Паглядзім, як ён сваіх усіх выдасць, каго ён лепшага знойдзе. Мы-то сабе дзеўку найдзем, гэтага шчасця хапае, толькі бяры! А ён... Паглядзім! Аўдзею адмовіць! Гэтак з хаты выгнаць, як жабрака якога. Я ета не забуду! Гэта яму проста так не мінецца. Унукі памятаць будуць.

Жабрак. Эх, Аўдзей, злом не пражывеш. Я ж казаў табе, паслухай...

Аўдзей *(перабівае)*. Замоўкні, а то выганю да д'ябла на вуліцу, сядзіш на чужой печы, яшчэ і рот раскрываеш. *(Да сваіх.)* Кладзіцеся спаць, нечага сядзець!

Усе разыходзяцца, застаецца толькі Андрэй. Жабрак накрываецца кажухом.

Андрэй. Яна хацела за мяне. Яна хацела!
Аўдзей. Сам бачыў, што хацела! Бацька ўсё!
Андрэй. І бацька быў не супраць мяне!
Аўдзей. Як гэта не супраць?
Андрэй. Я з ім размаўляў тыдзень назад!
Аўдзей. З Зуйком? Сам? Без мяне?

Андрэй. Я як бы гэтак... Вам я даўней гаварыў, калі б вы што супраць, то я б і нічога. А то... Я сена вазіў, а ён з лесу ішоў. Я яму і кажу: «Добрыя ў вас, дзядзька Пятрок, дзеўкі, хоць на базар вывозь». А ён: «Гэтакі тавар нікому не патрэбен, няма сэнсу на базар вазіць, не прадасі». А я: «А калі б знайшоўся пакупнік і на гэтакі тавар?» А ён і гаворыць: «Гэтакаму пакупніку я б яшчэ і прыплаціў, асабліва калі хлопец талковы, гэткі, як ты, то нядрэнна б і прыплаціў, не пашкадаваў бы, не глядзі, што не багата жыву, а дачку выдам па-людску, так што пакупнік той пакрыўджаны не застанецца». Значыць, не супраць ён быў! Не супраць!

Аўдзей. Ты ж чуў сваімі вушамі!

Андрэй. Не можа гэтага быць! Мо перабіў хто?

Аўдзей. Дык што ж рабіць?

Андрэй. Верка пойдзе за мяне!

Аўдзей. Як гэта пойдзе, калі бацька не пускае?

Андрэй. Скажу — і пойдзе. Пражывём без пасагу!

Аўдзей. Пасаг там не багаты, сам ведаеш. За дзеўкай пасаг — рукі ды розум, каб не толькі ў валасах, ды каб гаспадыняй была. Хаця, калі ёсць што ўзяць, яно нічога не лішняе, у гаспадарцы спатрэбіцца. Ды як жа без бацькі. Без бацькі нельга.

Андрэй. Яна ні за каго другога не пойдзе!

Аўдзей. Дзеўку хто возьме, за таго яна і пойдзе.

Стук у дзверы. Уваходзіць Вера.

Верка!

Верка. Андрэй!

Яны ідуць насустрач адно аднаму, але спыняюцца і глядзяць на Аўдзея.

Аўдзей. Э-э, ты што ета, дзеўка?

**Верка.** Дзядзечка Аўдзей, не праганяйце! Утаплюся!

Уваходзіць Варвара.

**Аўдзей.** Вось табе і на!

**Верка.** Не праганяйце! Дахаты назад не вярнуся. Утаплюся! *(Кідаецца Аўдзею ў ногі, плача.)*

Варвара падымае яе.

**Аўдзей.** Без бацькі... Гэтак нельга...

Андрэй дапамагае маці, удваіх яны падымаюць Веру. Вера плача, паўтарае: «Дзядзечка Аўдзей! Утаплюся! Не жыць! Не вярнуся!» — прыціскаецца да Андрэя. Андрэй абдымае яе.

Ну-ну-ну... бач ты іх! Потым бяды не абярэшся. Варвара, пакладзі яе разам [redacted] дзеўкамі. Заўтра паглядзім. З бацькам усё роўна размаўляць прыйдзецца.

Варвара выводзіць Веру.

*(Грозна.)* Ты што, можа, паспеў дзеўцы пуза прычапіць?!

**Андрэй.** Што ты?!

**Аўдзей.** Можа, Зуёк што западозрыў ды раззлаваўся, таму гэтак усё і атрымалася?

**Андрэй.** Калі б гэткае западозрыў, то [redacted] хаты б не гнаў.

**Аўдзей.** І то праўда. Сам бы следам віўся.

**Андрэй.** Не хоча ён, ну дык і не трэба, а мы пажэнімся, нам жыць, не яму.

**Аўдзей.** Ну-ну! Бач ты яго! Ад бацькі адмахнуцца хочаш!

Уваходзіць Варвара.

**Варвара.** Дзеўка нядрэнная, уважыцельная.

**Аўдзей.** І ты ўжо — баба за бабу. Тут справа не жарт, зусім не жарт!

**Варвара.** І маці яе не супраць.

**Аўдзей.** Маці ў хаце слова не мае. Не проста ета ўсё. Паглядзім заўтра — нехта ж прыйдзе следам за ёй.

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць **сват.**

**Сват.** Добры вечар, сваты. Іду, гляджу, вароты не зачынены, у хаце святло, дай, думаю, зайду.

**Аўдзей.** Праходзь, сват. *(Андрэю.)* Ідзі пазачыняй, а то кінулі ўсё. *(Свату.)* Сядай за стол, сват! Эй, Варвара!

**Андрэй** выходзіць, Варвара ставіць на стол талерку з салам, бутэльку гарэлкі. Сват і Аўдзей сядаюць за стол. У свата ў руках абрэз.

Што гэта ты пры аружжы?

**Сват.** Ат, хадзіў да нашых. Забраў у сына. Малады, яшчэ што з дуру, мала які выпадак...

**Аўдзей.** Які выпадак?

**Сват.** Цяпер кожны дзень выпадак. Не тое, дык гэта. А ты што, нічога не чуў?

**Аўдзей.** А што мне чуць?

**Сват.** Засяданні...

**Аўдзей.** Ад засяданняў хлеб не вырасце. Мяне засяданні не цікавяць. Каму трэба, хай сабе...

**Сват.** Хлеб-то не вырасце... Толькі засяданні гэтыя, ведаеш пра што? Пра кулакоў...

**Аўдзей.** Мяне гэта не цікавіць.

**Сват.** Затое іх цікавіць.

**Аўдзей.** Хто?

**Сват.** Той, у каго гаспадарка спраўная. А таму абрэз у сына і забраў. Сунуцца — а ён, хто яго ведае, а за зброю не адмолішся потым, і ў калгасе не выратуешся. У Сібір... Лепш гэты абрэз у рэчку выкінуць, далей ад бяды. А ты б пацікавіўся, не лішне...

**Аўдзей.** Пра што?

**Сват.** Пра засяданні... Там у іх спіскі...

**Аўдзей.** Мне да гэтага справы няма...

**Сват.** Яно-то так. Толькі людзі кажуць... Чуткі розныя, быццам, разумееш...

**Аўдзей.** Якія чуткі?

**Сват.** Кажуць... Хто іх ведае, ці праўда...

**Аўдзей.** Што ты цягнеш, кажы!

**Сват.** Быццам ты ў етых спісках...

**Аўдзей.** Я?!

**Сват.** Ягор Вуеўскі ў іх каміцеце... П'яны і казаў, быццам цябе... могуць раскулачыць...

**Аўдзей.** Як гэта раскулачыць?!

**Сват.** Вядома як... Прыйдуць, коней забяруць...

**Аўдзей.** Як гэта забяруць? Маіх коней? Я ж не аддам!

**Сват.** Яны пытаць не будуць... У каго больш аднаго каня — забяруць. І кароў забяруць.

**Аўдзей.** Маіх кароў?

**Сват.** І зямлю забяруць.

**Аўдзей.** Зямлю? Дык хто ж ета ім дасць забраць?

**Сват.** А калі супраць — сашлюць у Сібір.

**Аўдзей.** За што?

**Сват.** За тое, што ты супраць...

**Аўдзей.** Дык як жа я не супраць, калі яны грабіць мяне прыйдуць?!

**Сват.** Гэта не грабіць, гэта — прапрыяцыя.

**Аўдзей.** Як хочаш называй, я нажыў, а яны адбяруць?! За што? Што я, супраць улады ці падаткі не плачу? За што ета мяне?

**Сват.** Таму, што ты не бедната. У беднаты каміцет.

**Аўдзей.** Гэта — не мая справа, каміцеты. Я мужык, я ару, сею, я свайго не аддам!

**Сват.** Забяруць. Толькі тады выратуешся, калі сам усё аддасі. Уступі ў калгас. Аддай коней, кароў, зямлю, тады чапаць не будуць. Я да сына за гэтым і хадзіў, каб навучыць, каб запісаўся,— толькі гэтак выратуешся.

**Аўдзей.** Ні ў які калгас я не запішуся! Я сам сабе гаспадар!

**Сват.** Тады раскулачаць. Горш будзе. Людзі казалі, што ў суседняй воласці...

**Аўдзей** *(перабівае)*. Ты гэты абрэз куды нясеш?

**Сват.** Выкінуць у рэчку. Каб далей ад граху.

**Аўдзей.** Прадай яго мне!

**Сват.** Навошта ён табе?

**Аўдзей.** Прадай!

**Сват.** Дык я яго выкідаць хацеў, бяры так.

**Аўдзей.** Мне за так нічога не трэба. Прадай.

**Сват.** Дык я што, купляй.

Аўдзей падымаецца з-за стала, дастае з-за іконы грошы і аддае свату.

**Аўдзей.** Мінулы год, па вясне, крывы Якім у Івана купляў за пяць рублёў.

**Сват.** Э не. Я бачыў той абрэз. Са старой трохлінейкі. А мой з карабіна, сямізарадны, адразу абойма, сем патронаў, англійскі.

**Аўдзей.** Колькі ты хочаш?

**Сват.** Дык яно... Ён у два разы лепшы — сямізарадны. Восем рублёў, калі ўжо гэтак.

Аўдзей дае яшчэ грошы, забірае абрэз.

**Аўдзей.** А патроны?

**Сват.** Ён зараджаны — там сем патронаў. А астатнія я высыпаў. От гэтага дабра... Прыйдзеш да мяне, забярэш, колькі хочаш. Толькі абрэзам не дапаможаш... Лепш павініся...

**А ў д з е й.** Павініцца? У чым гэта я вінаваты?

**С в а т.** Чуў я... Расказвалі... Калі спіс гэты пісалі, цябе быццам першага і ўпісалі... А сёння быццам еты спіс зацвердзілі на засяданні.

У баку ад стала стаіць на каленях стары, **б а ц ь к а А ў д з е я**, і чытае на ноч малітву. Голас за сцэнай паўтарае асобныя словы.

**Б а ц ь к а А ў д з е я** *(чытае малітву).* «Госпадзі, прэклаі ўхо Твае і ўслыш смірэннае моленіе. Не допусці прецерпеці распяціе і ўбіеніе, яко Ты вынес за нас на кресце. Спасі людзі Твая, і душы, і цела іх, і благасастаяніе іх, і бліжніх іх, ахрані мірам всякага раба сваего в поце ліца кресцьянствуюшчэго на земле... Спасі і памілуй і ненавідзяшчых мяне, і абіжаюшчых мяне, і тваряшчых мне напасці, і разграбляюшчых мяне і не ставі іх пагібаць в ослепленіі грэха іх... Святый Божа, святый крэпкій, святый бяссмертный, памілуй нас. І ныне і прісна, і во векі веков. Амінь».

**С в а т** *(задумаўшыся).* Ты баб жыта жаць раней наймаў?

**А ў д з е й.** Наймаў.

**С в а т.** Вось за гэта і ўпісалі ў спіс.

**А ў д з е й.** Дык тады ж ніхто не забараняў. А хто гэта ведаў, што потым забароняць?

**С в а т.** Ніхто не ведаў. А выйшла ксплуатацыя. А я не наймаў. Не, я не наймаў, сваток!

**А ў д з е й.** Таму што ты скваппны, а я лепш грошы заплачу, абы хутчэй убрацца па восені. І бабы ж самі просяцца, ім-то заробак.

**С в а т.** Гэта так. Але я не наймаў. Не. Я не наймаў, а ты наймаў. Таму ты і ў гэтым спісе. Хто ведаў, а во як выйшла. Ты суседу свайму, Сцяпану, пшаніцы пазычыў паўмеха?

**А ў д з е й.** Пазычыў.

**С в а т.** А назад хацеў цэлы мех узяць?

**А ў д з е й.** Ты што? З неба зваліўся? Не ведаеш, што паўмеха па вясне каштуе як мех па восені? Ды і дамаўляліся.

**С в а т.** Я-то ведаю. Але цяпер гэта спікуляцыя. Ты ж хацеў і пабіць яго, а ён — бедната. А я нікога не біў, не наймаў — а баюся! Коней прадаў, карову адну пакінуў, у калгас запішуся, бо баюся, лепш у калгас, чым у Сібір. І ты падумай, Аўдзей! Пра дзяцей падумай, пра род падумай! Усе ўсё прадаюць, што ў каго ёсць.

**А ў д з е й.** Дык вось чаму яны мне малатарню за палову грошай прадалі. Але я ад свайго не адмоўлюся. Я свайго не аддам!

З вуліцы чуваць грукат у вароты.

**С в а т** *(спалохана)*. Хто гэта?

**А ў д з е й.** Мабыць, Зуёк. Дзеўкі хапіўся.

**С в а т.** Якой дзеўкі?

**А ў д з е й.** Сватаў сёння ў яго дачку, а ён не даў. А дзеўка ўвечары сама прыбегла.

**С в а т** *(з цікавасцю)*. Брухатая?

**А ў д з е й.** Здаецца, не.

**С в а т.** У Зуйка зяць у камітэце. Вось ты яго і спытай. Ён павінен ведаць.

**А ў д з е й.** Дык вось чаго ён дачку пабаяўся аддаваць, ён ведаў!

Зноў чуваць грукат у дзверы.

**С в а т** *(спалохана)*. Адзін гэтак не грукоча.

**А ў д з е й.** Пойдзем.

А б о д в а выходзяць.

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ

*У двары злева бачны ганак хаты, за вуглом хаты — агароджа. Справа ў далёкім куце сцэны высокія дубовыя вароты, у абодва бакі ад іх цягнецца агароджа.* Аўдзей *і* сват *выходзяць з хаты. У вароты зноў грукочуць.*

Аўдзей. Што трэба?

Голас з-за варот. Адчыняй! Рашэннем камітэта!

Сват. Гэта яны... Куды мне... *(Бегае па двары.)*

Аўдзей. Чаго ты...

Сват. Сват, мне трэба ўцячы, я не хачу, я ж не ў спісе, сват, куды? Табе ўсё роўна, а я не хачу, сваток... Я ж не ў спісе!..

Аўдзей. Сціхні!

Сват. Сваток, не супраціўляйся, аддай сам, горш будзе!

Аўдзей. Я свайго не аддам!

*Доўга грукочуць у вароты. Аўдзей і сват слухаюць грукат, а калі ён сціхае, быццам забываюць пра грукат. Аўдзей хапае свата за каўнер, сват вырываецца.*

Сват. Аддай! Ты адзін, іх шмат, у іх камітэт, прапрыяцыя, яны рашылі, спіс напісаны...

Аўдзей. Што мне іх камітэт? Калі яны сабраліся, селі за стол, паперу напісалі, прапрыяцыяй назвалі, дык можна ў чалавека адабраць усё, што ён нажыў гарбом, мазалём? Яны хто — Бог, каб рашаць, жыць мне ці не?

Сват. Бога цяпер адмянілі. Аддай усё сам — жыццё даражэйшае.

Аўдзей. Гэта ты аддай. Навошта я ўсё жыццё жылы рваў — каб цяпер аддаць? Каб стаць гэтакім жабраком, як яны? А яны прагуляюць, прап'юць маіх коней, маіх кароў, маю зямлю?! Не аддам! Як

гэта коней аддаць? Коні мае! Мне мая першая кабыла, з каторай хутар падымаў, даражэй за дзяцей была! Я яе да старасці трымаў, не прадаваў, колькі яна мне коней прывяла! Я яе за хлявом у ельнічку пахаваў, нават шкуру здымаць не стаў, толькі што дамавіну не зрабіў ды крыж не паставіў! Я плакаў, як яна прапала. Мы з ёй разам жылі, яна ўсё разумела, разам пот лілі, лес цягалі — упраж ірвалася. Я кожнага каня памятаю, як ступаў, як еў, мне кожны конь, што брат родны,— і я цяпер павінен аддаць сваіх коней? Каму? Ім? Яны не нажылі сабе коней, як я, ды і прыйшлі адабраць маіх, а я — аддай?! Зуйкову зяцю? Ён жа хамута каню падабраць не можа, ён жа прапіў, прагуляў усё тое, што яму Зуёк за старэйшай дачкой даў, яго ж залатымі пяцёркамі абсып, ён праз год зноў у лахманах сядзець будзе! Яму маіх коней! Не аддам!

Грукочуць у вароты.

Аддаць маіх кароў? Я дзесяць гадоў разводзіў гэтых малочных кароў — а цяпер аддай! Калі Чарнуха захварэла — ва ўезд за доктарам ездзіў, дванццаць пяць рублёў плаціў, ета ж амаль карову купіць можна, а цяжкі год быў, дзеці месяц без хлеба сядзелі, апошнія грошы аддаваў — і ім цяпер маіх кароў?! Не аддам!.. Навошта мне гэтакае жыццё — без каня, без каровы, без зямлі!.. Коні, каровы, зямля — гэта ўсё маё, усё маё жыццё, усё, чым жыву — усё ў зямлі...

С в а т. Цяпер зямля не свая. Дадзеная. Па едаках.

Грукочуць у вароты.

А ў д з е й. Мая зямля — мая! Мне ніхто не прырэзаў па едаках, я сваю зямлю яшчэ за тым часам за свае грошы купляў. Гэта табе прырэзалі па едаках.

Не па едаках зямля — па работніках. Едакі зямлю праядуць і з торбай пойдуць, ім гора мала. На едаках свет стаяць не будзе. Не на едаках свет трымаецца, на работніках. Зямлю я не аддам! Матка грошы збірала ўсё жыццё, бацька ўсё за Богам ды за парадкам, а яна капейку ў капеечку! Пяшком у Мсціслаўль сорак кіламетраў туды, сорак назад, як толькі вольны дзень, а гэты вольны дзень толькі зімою, у холад ды вецер наскрозь, накупляе стужак ды іголак на свае капейкі, нясе па вёсках прадаваць, ногі адняліся к старасці, а капейку да капейчыны! А як прыкінулі разам еты хутар купляць — дык і палавіны няма! А як хацелася мець сваё! Каб сам гаспадар! Сваё!!! Паехаў на тыя шахты, пасадзяць у клетку і пад зямлю, не дыхнуць, дзяўбеш кіркаю, вада з каменя сочыцца, то аднаго побач прыдушыць, то другога пакалечыць, пакуль уніз — тры разы малітву прачытаеш, выцягнуць — зноў молішся, што жывы. І гэтак два гады... Грошай быццам і шмат, а праясі, усё ж не на сваім, усё купі, за ўсё заплаці, а вярнуўся дахаты — зямля падаражала! Вось табе і на! А так хацелася мець сваё! А памагчы некаму, сыны малыя, адзін са старым. А тут вайна... Забралі, Бог паслаў ета раненне, зноў упрогся, а падаткі аддай, зноў даўгі, начамі не спаў, потам абліваўся,— а пасіліў, выцягнуў на сабе еты хутар, ету зямлю, у ёй мая кроў, мае жылы — і аддаць?

Грукочуць у вароты.

А як абжыўся, як сыны выраслі, як цяпер у мяне ёсць, як цяпер я — гаспадар, дык яны прыйшлі адабраць! Яны сядзелі, абы не працаваць, упрогаладзь і цяпер сядзяць, не працуюць — а ты аддай ім коней, кароў і зямлю! Не аддам! *(Штурхае свата.)* Адабраць у мужыка зямлю — што ж тады будзе?! Мужык за зямлю кроў і пот праліваў, не можа таго

быць! Тады ж свет перавернецца! Яны ж самі — «зямля — крэсцьянам». Ні Бог, ні ўлада такога не дапусцяць! Не! Пахаваў, шкуру не здымаў, толькі што крыж не паставіў! Маіх коней — ха-ха-ха! Пахаваў — заб'ю, заб'ю, не дамся! Мяне — Аўдзея?! Ха-ха-ха-ха... Не аддам! Зубамі загрызу — не аддам!

Сват вырываецца, у руках Аўдзея застаецца яго каўнер.

*(Глядзіць на гэты каўнер.)* Матка — ніткі, хусцінку, ногі, ногі адняліся, пахаваў, толькі крыж не паставіў — ні Богу, ні сабе, не, не, не... *(Падступае да свата, прыціскае яго да агароджы.)* Не можа быць! Ні ўлада, ні Бог не дапусцяць такой пагібелі!.. *(Апускаецца перад сватам на калені.)* Пагібелі... Свет перавернецца...

Сват пералазіць праз агароджу. Зноў грукочуць у вароты. Аўдзей страляе сем разоў у вароты. Усё змаўкае. На ганак выходзіць Варвара з лямпай у руках, падымае лямпу над галавой, следам за ёй на ганак збіраецца ўся сям'я. Вароты разломваюць, уваходзяць некалькі чалавек, упаўнаважаны з раёна. Аўдзей стаіць, быццам п'яны. Аўдзею скручваюць рукі. Выскаквае Андрэй, хапае вілы, але ў яго іх адбіраюць. Аўдзей робіць некалькі крокаў уперад, рукі за спіною ў яго падняты высока ўгару, сам ён нахіліўся ўперад і крычыць, завывае нечалавечым голасам. З ганка сыходзіць жабрак, праходзіць міма ўсіх праз усю сцэну. Сярод прысутных і Сёмка, які дапамагаў мужыку прадаваць малатарню.

Другі мужык. Ай да Аўдзей Усцінавіч! Галава, кажаш, грош цана, капейка? Ай да Аўдзей Усцінавіч! Хе-хе-хе...

Жабрак. Госпадзі! Што людзям трэба! Акрайчык хлеба, ды каб цяпло, ды каб не гналі. Госпадзі! Што людзям трэба! Госпадзі! Але і з чужога не пабагацееш, ох не пабагацееш, чужым сыты не будзеш, о Госпадзі! *(Выходзіць праз разбітыя вароты.)*

Чуцен плач дзіцяці.

Голас дзіцяці *(праз плач).* Мамка, чаго татка гэтак стаіць? Мамачка, я баюся!

Упаўнаважаны з раёна. Вось што такое, таварышы, старарэжымныя перажыткі, падноўленыя нэпманскімі тэндэнцыямі! Яны ператварылі селяніна ў аднаасобніка, у тупую жывёліну, каторая толькі і можа, што грабці пад сябе, не бачачы наўкола нічога, не разумеючы цякушчага маменту. На гэта мы, таварышы, не пойдзем! Уперадзе ў нас вялізная і адказная работа, і тыя, хто стаіць нам насуперак, будуць адкінуты з дарогі! Тут, на вольнай зямлі, будзе працаваць вольнае трудавое сялянства, з'яднанае ў сельгасарцелі. І першую сельгасарцель у нашай воласці мы так і назавём — «Шлях да светлай будучыні»!

*Заслона*

*1989*